ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 88(5270)
Аўторак, 7 жніўня 2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 80 руб.*

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Школа спадзяецца на закон

***Перш чым распачаць гаворку пра цяжкасці і праблемы, якія хацелася б агучыць на з'ездзе настаўнікаў, колькі слоў пра наш раён.***

На працягу мінулага навучальнага года Чэрыкаўскім аддзелам адукацыі і іншымі ўстановамі адукацыі раёна было зроблена шмат, каб адукацыйна-выхаваўчы працэс быў якасным, творчым, адпавядаў патрабаванням сучаснасці, даваў добрыя вынікі. У школах і дашкольных установах укараняліся тэхналогіі навучання і выхавання, якія забяспечваюць усебаковае развіццё асобы; праведзена арганізацыйная работа па вывучэнні адукацыйных стандартаў, удасканальвалася метадычнае забеспячэнне вучэбна-выхаваўчага працэсу. Нягледзячы на эканамічныя цяжкасці, усё-такі праводзілася пэўная работа па выкананні дзяржаўных, рэспубліканскіх і ведамасных праграм "Сельская школа", "Інфарматызацыя сістэмы адукацыі", "Замежныя мовы", "Настаўнік", "Падручнік" і г.д.

Пра новае неабходна гаварыць, пачынаючы з дзіцячых дашкольных установ. У дзіцячым садзе № 5 (загадчыца Л.В.Пазднякова) працуе эксперыментальная пляцоўка па тэхналогіі "Першы крок", галоўная мэта якой — падрыхтаваць дзіця да жыцця, сфарміраваць устойлівае імкненне і ўменне вучыцца самастойна. Трэба адзначыць, што педагагічны калектыў прыклаў шмат намаганняў, каб аб'яднаць галоўных удзельнікаў выхаваўчага працэсу: дзяцей, выхавальнікаў, бацькоў.

Цудоўная магчымасць не абмяжоўвацца рамкамі традыцыйных адукацыйна-выхаваўчых мадэляў з'явілася і ў настаўнікаў пачатковых класаў. У школах раёна паспяхова ўкараняецца тэхналогія "Крок за крокам": штогод павялічваецца колькасць класаў, што працуюць па ёй. Ужо сёння можна з упэўненасцю сказаць, што дзеці пачуваюць сябе ў такіх класах камфортна, зніжаецца напружанне, павышаецца цікавасць да вучобы, а значыць, ёсць галоўны вынік — у школу дзіця ідзе з задавальненнем.

Увогуле, актывізавалася работа педагогаў раёна па выкарыстанні элементаў новых тэхналогій. Імі шырока прымяняюцца элементы развіццёвага навучання, тэхналогіі Лысенкавай, узроўневай дыферэнцыяцыі.

Выразнай тэндэнцыяй апошніх гадоў з'яўляецца набліжэнне зместу адукацыі да патрэб дзяцей. У раёне працуюць класы з паглыбленым вывучэннем прадметаў, арганізавана навучанне замежнай мовы з пачатковых класаў.

Другі год у Верамейскай школе (дырэктар Д.П.Хомчанка) праводзіцца эксперымент па ўкараненні дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі ведаў. Аналіз яго вынікаў паказаў добрае стаўленне настаўнікаў, вучняў і бацькоў да новай сістэмы.

У сваёй працы вялікую ўвагу ўдзяляем рэалізацыі рэспубліканскай праграмы патрыятычнага выхавання. Традыцыйным стала правядзенне ў раёне эстафеты патрыятычных спраў, навукова-практычных канферэнцый па гісторыі Чэрыкаўскага раёна. Цікавы вопыт работы па краязнаўстве назапашаны ў Верамейскай сярэдняй школе, дзе па ініцыятыве настаўніка гісторыі В.Ф.Лукашэнкі арганізавана мэтанакіраванае даследаванне гісторыі роднага краю, праводзіцца сумесная работа з вучнямі ў гэтым кірунку. Яе цэнтрам з'яўляецца школьны музей Баявой славы (у мінулым навучальным годзе яму прысвоена званне народны).

Вялікае значэнне ў рабоце аддзела і ўстаноў адукацыі надаецца арганізацыі летняга адпачынку і аздараўлення вучняў. І тут першачарговая ўвага ўдзяляецца выезду дзіцячых груп на аздараўленне за межы раёна. Усяго за летні перыяд у санаторыях рэспублікі, а таксама ў блізкім і далёкім замежжы планавалася аздаравіць 1232 школьнікаў, а гэта значыць — 46 працэнтаў. Асаблівую ўвагу звяртаем на арганізацыю летняга адпачынку вучняў, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх і на ўнутрышкольным уліку.

Разумеем, што астатнія 54 працэнты будуць праводзіць канікулы на тэрыторыі раёна. У гэтым выпадку таксама знаходзім аптымальныя варыянты.

Вялікая нагрузка ў рабоце з дзецьмі ў летні перыяд ускладаецца на ўстановы пазашкольнай адукацыі і выхавання. Ужо не першы год у раёне паспяхова працуюць рознаўзроставыя атрады. Ёсць добрыя традыцыі існавання атрадаў цімураўцаў. У Рэчыцкай сярэдняй школе (дырэктар В.Т.Фёдарава) сваю летнюю дзейнасць плануем і праводзім сумесна з установамі культуры.

Старшакласнікі працуюць у складзе рамонтна-будаўнічых брыгад, што фінансуюцца раённым цэнтрам занятасці

На з'ездзе хацелася б сказаць пра тое, каб настаўнік займаўся перш за ўсё навучаннем дзяцей, атрымліваючы належную зарплату, якая дазваляла б рэгулярна набываць неабходную метадычную літаратуру, мець годны адпачынак, умовы працы.

Хацелася б, каб у нас была добрая нарматыўна-прававая база, пачынаючы з Закона аб адукацыі. Многія нарматыўныя дакументы носяць невыразны характар. Напрыклад, аздараўленне дзяцей у чарнобыльскіх раёнах па пражыванні або па прапісцы. Харчаванне: зона 1-5 кі/км² — аднаразовае, 5-15 кі/км² — двухразовае. Дзеці наведваюць адну школу, але жывуць у розных населеных пунктах і з розным узроўнем радыяцыі, і з адпачынкам — таксама не стыкоўкі. Узнікаюць цяжкасці ў арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу.

Мне б хацелася і закрануць пытанне заключэння кантрактаў з педагогамі. Педагогі, што працуюць у зоне, жадаюць перайсці на кантрактную форму з 30-працэнтнай даплатай. Пры пераводзе на кантрактную форму неабходна выплаціць двухтыднёвую дапамогу, як быццам за пагаршэнне ўмоў, у памеры сярэдняга заробку педагога за кошт эканоміі ўстаноў адукацыі, але ў рэальнасці эканоміі няма. Усяго на перавод неабходна 8,5 млн. рублёў. Медыцынскія ж работнікі гэты кантракт атрымліваюць ужо з моманту катастрофы на ЧАЭС.

Лета — час адпачынку настаўнікаў і вучняў. Але для аддзела адукацыі і адміністрацыі школ — гарачая пара: падрыхтоўка да новага навучальнага года, якую даводзіцца сумяшчаць з работай у падшэфных гаспадарках па праполцы буракоў і нарыхтоўцы сена.

Вельмі хацелася б, каб неабходныя сродкі на адукацыю выдзяляліся не па прынцыпе "ўсім патрошкі", а па патрэбнасцях. Безумоўна, раённы выканаўчы камітэт ідзе нам насустрач, аказвае фінансавую падтрымку. Аднак таго, што выдзяляецца, недастаткова.

Разумеючы ўсе цяжкасці, імкнёмся ўмацоўваць шэфскія сувязі з базавымі прадпрыемствамі, аднак і яны не заўсёды цяпер могуць дапамагчы. Як сведчыць сусветны вопыт, лепш за ўсё акупляюцца сродкі, укладзеныя ў адукацыю. Нішто не вечнае, а тым больш — дах. Яго рамонт складае ўсю гадавую суму фінансаў, выдзеленую на ўстановы адукацыі.

Хвалюе нас і жыллёвае пытанне. Заключаючы кантракт з выпускнікамі школ, якія паступаюць у ВНУ, пасля іх вяртання не выконваем яго ў плане жылля, і часам маладыя спецыялісты ад'язджаюць з раёна або ўвогуле не даязджаюць.

У маі бягучага года праводзілася нарада педагогаў раёна, на якой былі выпрацаваны рэкамендацыі-патрабаванні па пытаннях развіцця адукацыі. Яны павінны абавязкова прагучаць на нашым з'ездзе.

1. Распрацаваць строгую дзяржаўную праграму, якая на заканадаўчай аснове будзе вырашаць праблемы матэрыяльнага забеспячэння школы, матэрыяльнага становішча настаўніка, прэстыжу яго прафесіі.

2. Вучоным, адпаведным спецыялістам распрацаваць і давесці да ўстаноў адукацыі рэспубліканскія праграмы работы з падлеткамі, якія маюць дэвіянтныя паводзіны, не адрасуючы гэта на рэгіянальны ўзровень, дзе спецыялістаў няма.

3. Заканадаўча павысіць адказнасць бацькоў за выхаванне сваіх дзяцей.

4. Прадстаўнікам вышэйшых органаў адукацыі акрэсліць рэальную схему дзейнасці класных кіраўнікоў, як ім сумяшчаць абавязкі настаўнікаў-прадметнікаў з тымі шматлікімі функцыямі, якія патрабуюць ад класнага выконваць мноства праграм, накіраваных на ўсебаковае развіццё асобы вучня. (Пры гэтым улічыць, што ў выхаванцаў — па 7-8 урокаў).

5. Прывесці ў адпаведнасць школьныя праграмы, адукацыйныя стандарты і змест уступных экзаменаў у ВНУ, каб выпускнік, які з усёй адказнасцю ставіцца да вучобы, змог паступіць у ВНУ без дадатковага рэпетытарства.

6. Распрацаваць метадычныя комплексы, забяспечыць дыдактычнымі і раздатачнымі матэрыяламі пачатковае звяно школы. Распрацаваць метадычныя дакументы, уключаючы праграмы ў беларускамоўным варыянце для ўкаранення ў практыку навучання пачатковых класаў школ з беларускай мовай навучання тэхналогіі "Крок за крокам". Разгрузіць школьныя праграмы.

**Любоў УКРАЖАНКА,**
**загадчык аддзела адукацыі Чэрыкаўскага райвыканкама.**

Будні ПТА

## Наватарскі стыль

***За апошнія гады і ў краіне, і ў грамадстве адбыліся вялікія змены, якія неабходна ўлічваць усім тым, хто займаецца адукацыяй і выхаваннем новага пакалення. Міністэрствам адукацыі сумесна з вучэбна-выхаваўчымі ўстановамі выбраны асноўны напрамак выхаваўчай палітыкі — гэта стварэнне гуманістычнай сістэмы выхавання з асобасна арыентаваным падыходам. Забеспячэннем умоў для фарміравання і развіцця асобы, раскрыцця яе індывідуальнасці, гатовай актыўна дзейнічаць, як раўнапраўны і роўнаадданы член грамадства.***

Справядлівым будзе зазначыць, што стан выхавання моладзі сёння задавальняе менш, чым стан яе адукаванасці.

Ва ўсе часы складанасцей выхаваўчага характару было вельмі многа. Але, бадай, самай значнай для прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў сёння з'яўляецца праблема цяжкіх падлеткаў.

Калі ў ПТВ няма навучэнцаў, што стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх, дык гэта яшчэ не азначае, што ў вучылішчы няма цяжкіх падлеткаў і праблем наогул. Вельмі часта можна заўважыць недаверлівы погляд, а часам — патухлыя, не па-дзіцячы злыя вочы, пачуць нервовы ўскрык ці пярэчанне аднагодкам, а то нават і дарослым, стаць сведкам жорсткіх адносін паміж падлеткамі. Чаму моладзь становіцца такой?

**У ПТВ № 143 забяспечваюцца ўмовы для фарміравання і развіцця асобы, раскрыцця яе індывідуальнасці, гатовай актыўна дзейнічаць, як раўнапраўны і роўнаадданы член грамадства.**

Адказаць на гэтае пытанне складана, але адно вядома — такія навучэнцы аслабелыя маральна, сацыяльна, фізічна. Часта няпростыя жыццёвыя лёсы патрабуюць для дзяцей падтрымкі і дапамогі.

Хачу прывесці несуцяшальныя лічбы: амаль чацвёртая частка падлеткаў. навучэнцаў ПТВ Гомельскай вобласці, выхоўваецца ў няпоўных сем'ях, больш за 300 — сіроты, амаль 250 дзяцей з'яўляюцца інвалідамі ці маюць недахопы ў псіхафізічным развіцці, больш за 200 навучэнцаў пастаўлены на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх. І калі ўсур'ёз задумацца над гэтымі лічбамі, дык можна толькі здагадвацца, які цяжкі груз ўзвалілі на сябе нашы ПТВ. Менавіта таму задача інжынерна-педагагічных работнікаў — не толькі даць веды і арыентаваць на прафесію, але і абараніць слабага, супакоіць нервовага, дапамагчы маральна хвораму і кожнаму надаць веру ў дабро ды міласэрднасць, як і ў свае ўласныя сілы.

На Гомельшчыне шэраг прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, дзе прафесіяналізм інжынерна-педагагічных работнікаў спалучаецца з чалавечнасцю, неабыкавасцю, цярпеннем.

Добра разумеючы сучасныя запатрабаванні моладзі, а таксама праблему занятасці вольнага часу, асабліва цяжкіх падлеткаў, калектыў Жлобінскага ПТВ № 143 засяродзіў сваю ўвагу на развіцці творчых здольнасцей выхаванцаў, паставіў галоўнай сваёй задачай стварэнне ўмоў, якія максімальна садзейнічалі б развіццю чалавечай асобы. І поспех у вырашэнні — відавочны. Па жаданні навучэнцаў працуюць 5 спартыўных секцый, 5 клубаў і 22 гурткі, якія наведваюць больш за 95 працэнтаў падлеткаў. Ніводзін не застаецца без увагі, вопытныя педагогі дапамагаюць кожнаму выбраць справу па душы. Выступаючы на педагагічных саветах, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце А.П.Карман нагадвае сваім калегам радкі з верша С.Давыдовіча:

> Нет! Не рождаются
> "трудными" дети!
> Просто им вовремя
> не помогли.

Жыццё пацвярджае, што там, дзе створаны адзіны падыход да справы, — там дасягаюцца пэўныя вынікі.

Ужо ўвайшло ў традыцыю правядзенне ў вучылішчы народных свят. З нагоды гэтага навучэнцы збіраюць матэрыял аб жыцці Беларусі, аб яе традыцыях, наладжваюць народныя гулянні. Невычэрпная крыніца народнай творчасці будзіць душэўны ўзлёт фантазіі юных талентаў.

Рупліва дбаюць настаўнікі і пра здароўе сваіх выхаванцаў. Асновай пазакласнай спартыўна-масавай работы з'яўляецца свабодны выбар, улік здольнасцей і магчымасцей кожнага праявіць сябе. Асаблівая ўвага надаецца падрыхтоўцы моладзі да жыцця, да вайсковай службы, прапагандуецца здаровы лад жыцця. Для гэтага ПТВ мае нядрэнную вучэбна-спартыўную базу, забяспечана спортінвентаром, укамплектавана вопытнымі кадрамі, якія працуюць плённа, з творчым падыходам.

Як адзначае дырэктар вучылішча Л.А.Міхальцоў, сёння імідж навучальнай установы вызначаецца не толькі высокім узроўнем выкладання, але і творчым майстэрствам, якое ўзбагачае духоўны свет навучэнцаў, фарміруе іх працоўныя і жыццёвыя навыкі. А гэта немагчыма без дзейнасці зладжанага калектыву, працы якога ўласцівыя высокі прафесіяналізм, творчасць, бесперапынная самаадукацыя і самаўдасканаленне.

**На Гомельшчыне дзейнічае шэраг прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, дзе прафесіяналізм інжынерна-педагагічных работнікаў спалучаецца з чалавечнасцю, неабыякавасцю, цярпеннем.**

Кожны год у ПТВ праходзіць творчая справаздача гурткоў мастацкай самадзейнасці, дзе абавязкова ўключаюцца выступленні фальклорна-этнаграфічнага гурта, тэатра мод "Стыль", драматычнага гуртка і інш. Навучэнцы дэманструюць высокі ўзровень майстэрства, і гэта, безумоўна, заслуга кіраўнікоў.

У вучылішчы наладжана творчая выстава, на якой дэманструюцца зробленыя рукамі падлеткаў мяккія цацкі, вырабы з дрэва, пано, малюнкі. Прыгожыя саматробныя рэчы ўжо неаднаразова адзначаліся рознымі дыпломамі, карысталіся попытам на святочных кірмашах.

Кожны, хто трапляе ў ПТВ № 143 можа пераканацца, што сістэмнасць, няспыннасць, інавацыйныя падыходы — асноўныя складнікі поспеху калектыву дадзенай установы ў рабоце з цяжкімі падлеткамі. Больш бы такіх ПТВ, а галоўнае — падобных адносін да праблем і патрэб моладзі.

Таму і едуць сюды калегі, каб паглядзець на шчырую працу педагогаў, іх наватарскі стыль, station назіраць за дзейнасцю навучэнцаў.

**Галіна ДРАБЫШЭЎСКАЯ,**
**загадчыца кабінета Гомельскага абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафадукацыі.**



Абітурыент-2001

## Хочаш стаць дызайнерам? Вытрымай пяць экзаменаў!

***Жнівень — пара ўступных іспытаў у сярэдніх спецыяльных навучальных установах нашай краіны. Калідоры і аўдыторыі каледжаў і тэхнікумаў запоўнены абітурыентамі. Мінскі дзяржаўны архітэктурна-будаўнічы каледж — таму пацвярджэнне.***

Адчуваюцца хваляванне і заклапочанасць абітурыентаў і іх бацькоў: конкурс — не маленькі (ад двух да шаснаццаці чалавек на месца). На 590 запланаваных месцаў пададзена 2290 заяў. Каледж рыхтуе прафесіяналаў па васьмі спецыяльнасцях. Самымі папулярнымі сёлета сталі "Эканоміка і кіраванне прадпрыемствам" (прыкладна 6,5 чалавека), "Архітэктура" (каля 7 чалавек), "Дызайн" (10 чалавек), "Бухгалтарскі ўлік аналіз і кантроль" (15 чалавек), "Камерцыйная дзейнасць" (прыкладна 16 чалавек) — моладзь па-ранейшаму прываблівающь спецыяльнасці эканамічнага плана.



З 1993 года архітэктурна-будаўнічы каледж пачаў рыхтаваць спецыялістаў з кваліфікацыяй мастак-дызайнер. Як паведаміў В.І.Чарнуха, загадчык кафедры дызайну, спачатку ішла падрыхтоўка на платнай аснове, але, улічваючы высокі ўзровень гэтай падрыхтоўкі, у 2000 годзе Міністэрства адукацыі дазволіла перайсці на бюджэтную форму навучання. Каб паступіць на спецыяльнасць "Дызайн", неабходна прайсці праз шмат этапаў. Па-першае, трэба здаць экзамены па малюнку, жывапісе і кампазіцыі. Па-другое, напісаць дыктоўку на рускай або беларускай мове (па выбары) і здаць літаратуру: беларускую ці рускую (таксама на выбар). Атрымліваецца, што абітурыентам, якія хочуць стаць мастакамі-дызайнерамі, неабходна вытрымаць аж пяць экзаменаў! Да таго ж яны павінны мець папярэднюю падрыхтоўку: скончыць мастацкую школу або студыю. Прыёмная камісія, якая ацэньвае здольнасці будучых дызайнераў, вызначаецца вядомымі людзьмі ў сваім складзе — гэта члены Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь, удзельнікі разнастайных рэспубліканскіх і міжнародных выстаў В.Ф.Валошына і А.У.Родзіна. Гэта гаворыць як пра сур'ёзнае і прафесійнае стаўленне экзаменатараў да ўступных іспыт, так і пра большую адказнасць абітурыентаў.

Акрамя дызайнераў, малюнак здаюць і будучыя архітэктары. У пералік іх уступных экзаменаў яшчэ ўключаны матэматыка і дыктоўка. На ўсе астатнія спецыяльнасці ўступныя выпрабаванні абмежаваны матэматыкай і дыктоўкай. Матэматыка здаецца пісьмова, калі конкурс у мінулым годзе перавышаў пяць чалавек на месца, і вусна — калі менш пяці чалавек на месца. Сёлета матэматыку пісьмова здаюць абітурыенты, якія паступаюць на спецыяльнасці "Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль", "Эканоміка кіравання прадпрыемствам" і "Камерцыйная дзейнасць", "Архітэктура".

Прыём абітурыентаў у Мінскі дзяржаўны архітэктурна-будаўнічы каледж ажыццяўляецца як на аснове базавай адукацыі, так і на аснове агульнай, што, безумоўна, пашырае іх магчымасці.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКАХ: камісія па кантролі ўступных экзаменаў не дапусціць парушэнняў; не хвалюйцеся — і ў вас усё атрымаецца; пераадолеем усе перашкоды.

**Фота Таццяны ГАЦУРА.**

Весткі з Барысаўскага раёна

### Вучнёўскі працоўны дэсант

Вучні Іканскай базавай школы правялі працоўны дэсант па добраўпарадкаванні прысадаў Памяці і прысадаў гарадоў-герояў. Праполка, падсыпка, вываз смецця — гэтымі і іншымі відамі работ займаліся дзеці.

Вучнёўскі працоўны дэсант адзначаны кіраўніцтвам школы. Дырэктар школы і яго намеснік (М.І.Шалак, С.А.Ляўковіч) арганізавалі для выхаванцаў чарговую экскурсію ў музей Вялікай Айчыннай вайны.

Музейная педагогіка на іх думку — эфектыўная метадыка выхавання падлеткаў у Іканскай базавай школе. І асаблівая ўвага тут надаецца выхаванню патрыятычнаму.

### Працуюць на перспектыву

Яшчэ сёлета, у маі, педагагічны калектыў Вяліка-Трасцяніцкай базавай школы на чале з дырэктарам Тамарай Васільеўнай Клімковіч зацвердзіў Праграму развіцця ўстановы на перыяд з 2001 па 2007 гады. Зараз тыя педагогі, якія выйшлі з адпачынку, распрацоўваюць сцэнарый свята для бацькоў "Такой будзе наша школа ў XXI стагоддзі" (так пачынаецца рэалізацыя згаданай Праграмы). "Тэатралізаваная адукацыйна-культурная відовішча (шоу-праект) аб развіцці нашай установы, які пройдзе ў канцы жніўня, дасць нам магчымасць прыцягнуць увагу бацькоў, грамадскасці, запрошаных фундатараў да спраў школы", — зазначыла Тамара Васільеўна.

### Агульнымі намаганнямі

Вялікую работу па падрыхтоўцы да новага навучальнага года правялі педагогі і тэхработнікі Лошніцкай гімназіі. Бягучы, касметычны і капітальны, рамонт кабінетаў, добраўпарадкаванне тэрыторыі, догляд доследнага прышкольнага ўчастка — тыя аб'екты, дзе найлепшым чынам папрацавалі вучні, бацькі, педагогі. Дырэктар і яго намеснікі (Віктар Вячаслававіч Алецкі, Ала Сямёнаўна Курган, Генадзій Мікалаевіч Скавародкін, Святлана Мікалаеўна Шмачынская) задаволены зробленым.

Лошніцкая гімназія заключала дагавор з БДПУ імя М.Танка аб супрацоўніцтве і дапамозе ў рэцэнзаванні планаў і праграм. У гэтай справе гімназіі аказалі значную дапамогу саветнік рэктара БДПУ імя М.Танка прафесара А.Ц.Караткевіч і былы начальнік упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама А.С.Новік.

### Калі і адпачынак справе падмога

Шмат увагі падрыхтоўцы школ раёна да новага навучальнага года ўдзяляе загадчыца райана Т.І.Чэрнікава. Нават будучы ў адпачынку, Таццяна Іванаўна вырашала многія пытанні, наведала школы. Валянціна Пятроўна Макарская, дырэктар Крычанскай сярэдняй школы адзначае: "Прыемна працаваць, шукаць фундатараў, дадатковыя сродкі для рамонту ўстановы, калі цябе разумеюць, табе дапамагаюць, цябе падтрымліваюць. Іншы раз рукі апускаюцца, а Чэрнікава патэлефануе, пад'едзе, прыме ўдзел — і ўжо лёгка, хочацца працаваць, рухацца наперад. Такая ўжо яна, наша Таццяна Іванаўна.

### Напрамак касцюкоўскіх педагогаў

Касцюкоўская базавая школа (дырэктар Надзея Іванаўна Падаляк) знайшла свой напрамак у вывучэнні гістарычнай і культурнай спадчыны роднага краю, у выхаванні падлеткаў сродкамі народнай педагогікі. Курсы "Спадчына роднага краю", "Фальклярыст", секцыя "Беларускія народныя гульні", гурт "Касцюковачка" пачнуць сваю дзейнасць з новага навучальнага года. Для самадзейных артыстаў будуць заказаны беларускія народныя строі.

### Выйдзе чарговы нумар весніка

Рупліва рыхтуецца Раіса Рыгораўна Рамановіч, намеснік загадчыка аддзела адукацыі, да пасяджэнняў метадычных аб'яднанняў педагогаў раёна, якія пройдуць у канцы жніўня. Яны будуць прысвечаны інавацыйным працэсам і новаўвядзенням. Асветнікі раёна выпускаюць штомесячны метадычны веснік, дзе адлюстроўваюць вопыт, знаходкі, указваюць адрасы цікавых даследаванняў. У весніку адлюстравана выніковасць работы аддзела, школ раёна. Рыхтуецца цікавы нумар часопіса да жнівеньскіх нарад.

**Мікалай УЛАДЗІМІРАЎ.**

Прафесійнае майстэрства

# "Суровая праўда" дыялога

***Найвялікшая цяжкасць для настаўніка — прызнавацца самому сабе ва ўласных педагагічных праліках. Асаблівыя, бадай што, галгофскія пакуты перажывае ў такім выпадку педагог, які выкладае ў школе літаратуру. Ён жа сеяў разумнае, добрае, вечнае! Яго вучань — надзея школы — чытаў на памяць Пушкіна і Купалу, вывучаў усю праграму, а можа нават і звыш яе, а потым і ў ВНУ быў сярод лепшых. А што атрымалася з яго ў канчатковым выніку?..***

**... Дыялог з мастацкім тэкстам можна акрэсліць як ад сумленнага (маральна-адказнага) чытання. Ён з'яўляецца не проста формай спасціжэння духоўнага зместу вобраза, а перш за ўсё — пачаткам разбуджанай тэкстам маральнай дзейнасці чытача. Нікуды не падзенешся ад аксіёмы, што праўдзівы крытэрый ведаў школьніка па літаратуры — яго сумленнае жыццё.**

Надарылася аднойчы састарэламу настаўніку-моваведу сустрэцца з былым выхаванцам. Той стаяў на моцных нагах, глядзіць на жыццё ўладарна і ўпэўнена. Але зразумеў летуценны "Пігмаліён", што яго "скульптура не ажыла": духоўнага чалавека з вучня не атрымалася. Не, інфармацыяй з самых розных навук нашчадак папросту перапоўнены. Але вось душэўнай эрудыцыі — аніякай. Сервільны пагляд на жыццё, цынізм, нецярпімасць да крытыкі, агрэсіўнае самасцвярджэнне за кошт прыніжэння свайго блізкага. Адным словам, не стаў былы выдатнік сапраўды інтэлігентным чалавекам.

Сітуацыя, на жаль, не з выключных... І тады настаўнік-моваед вярнуў сваю памяць да дадзеных ім калісьці ўрокаў літаратуры і пачаў пералічваць памылкі, якія ён тады дапусціў. Налічыў нямала. Але вылучыў і галоўную: ён не навучыў свайго выхаванца чытаць мастацкі тэкст.

Колькі часу настаўнік выдаткаваў на перадачу школьніку "калялітаратурных" фактаў: пра эпоху, біяграфію пісьменніка, жанры, метафары і г.д. Як па-майстэрску вучыў ён юных разважаць і мець на ўсё асабісты пункт гледжання! Але ж аказалася, што не хапіла часу і майстэрства на выхаванне ў падлеткаў сумлення і міласэрнасці. Чаму ? Ці не таму, што "наглядным дапаможнікам" у выхаванні добрага чалавека можа быць толькі прыклад жыцця самога настаўніка? Вучні ж усё заўважаюць са свету дарослых...

Такім чынам, спасціжэнне мастацкага тэксту на ўроку літаратуры паўстала перад педагогам у якасці адной з актуальнейшых сённяшніх праблем школьнага выхавання асобы.

Па пытанні узаемін чытача з тэкстам вядомы літаратуразнаўца М.М.Бахцін распрацаваў грунтоўную навуковую тэорыю. Даследчык выказаўся за "актыўнае дыялагічнае разуменне" мастацкага тэксту. Аўтар кнігі "Эстэтыка" (у 2 тамах) Ю.Бораў падкрэсліў, што выказаны М.М.Бахціным прынцып "асабліва істотны ў разуменні мастацкага тэксту, які заўсёды пабудаваны ў разліку на дыялог. Разуменне — успрыманне пачуццём духоўнага свету іншага чалавека, суперажыванне яго пачуццям і думкам. Разуменне — тып ведання, які не валодае самастойным значэннем і не мае магчымасці ні пацвердзіць, ні абвергнуць змест ведання".

Паняцце "разуменне" ў даным выпадку — з выразу "як я цябе разумею!", у сэнсе "як мне балюча за твой боль!". А "іншым чалавекам" прадстае перад чытачом мастацкі тэкст.

Што ж, заклік да дыялога з тэкстам гучыць прыгожа. Але калі прыняць яго ўсур'ёз, дык настаўнік разам з вучнямі апынецца ў нязвыклай і, бадай, нерэальнай маральнай сітуацыі, пры якой чытач павінен не на словах, а ў жыццёвай практыцы даводзіць сваю згоду з маральнай пазіцыяй улюбёнага персанажа. І тады рэцыпіенту можа стаць сорамна, скажам, перад Наташаю Растовай з эпапеі Л.Талстога, за тое, што ў сваім уласным жыцці ён ужо выракся той чысціні, якая складае сутнасць характару Наташы.

А можа, вучань услед за дарослымі зразумее, што кніга — гэта кніга, а жыццё — справа іншая? І тады яму адразу стане лёгка прамаўляць розныя дыятрыбы і філіпікі ў адрас усялякіх габсэкаў, фамусавых і гарлахвацкіх. Падлетак гордым сокалам узнімаецца над прыземленасцю гэтых персанажаў і будзе ва ўсім перамагаць, пакуль не разаб'ецца ў сваім выкрывальніцкім палёце аб радкі з Евангелля: "Не судите, да не судимы будете. Ибо каким судом судите, таким будете судимы. И что ты смотришь на сучок в глазе брата твоего, а бревна в твоем глазе не чувствуешь?" (Евангелие ад Матфея, глава 7, § 1).

Гарлахвацкія і габсэкі — таксама "браты твае", а дыялог ёсць дыялог, і ці не адкрые гаспадар багатага маскоўскага дома з камедыі А.С.Грыбаедава "Гора ад розуму", што хтосьці з нас ужо жыве паводле прынцыпу "а ля Фамусаў"?

Такім чынам, дыялог з мастацкім тэкстам можна акрэсліць як ад сумленнага (маральна-адказнага) чытання. Ён з'яўляецца не проста формай спасціжэння духоўнага зместу вобраза, а перш за ўсё — пачаткам разбуджанай тэкстам маральнай дзейнасці чытача. Нікуды не падзенешся ад аксіёмы, што праўдзівы крытэрый ведаў школьніка па літаратуры — яго сумленнае жыццё. Такая выснова зусім не азначае прыніжэння ролі калялітаратурнай інфармацыі: сумленны настаўнік будзе вучыць і эпасу, і тропам, і ямбам. Але ён ніколі не вынесе гэтую інфармацыю ў разрад з'яў вядучых, першасных, вызначальных у справе выхавання міласэрнасці. Усё патрэбнае для такога выхавання — у вобразе, а не вакол яго.

Пра неабходнасць маральна-адказнай пазіцыі асобы ў дачыненні да грамадства літаратура прамаўляе ў поўны голас:

> Век мой, зверь мой,
> кто сумеет
> Заглянуть в твои зрачки
> И своею кровью склеит
> Двух столетий позвонки?
> *(В.Мандельштам. Век.)*

Калі пад векам разумець літаратуру века, дык рытарычнае запытанне лірычнага героя ў прыведзеным фрагменце можна прачытаць як тлумачэнне таго, што мы ўкладваем у паняцце "сумленнага" (маральна адказнага) чытання. Мастацкі тэкст у даным выпадку — гэта "зрэнка века". І нам (а каму ж яшчэ?) трэба сёння "сваёю крывёю" (так, сваёю, іншай няма) "склейваць" "пазванкі двух стагоддзяў". Нават — тысячагоддзяў.

Заклік да дыялога з мастацкім тэкстам — зусім не чарговая метадычная кан'юнктура. Ён — суровае і да таго ж адвечнае патрабаванне жыцця.

Выгадна і ўтульна ўспрымаць твор як расповед пра тое, што адбылося дзесьці, з кімсьці, калісьці. Цяжэй прызнавацца ў размове з самім сабою, што кожны з сюжэтаў напісаны пра мяне, адбываецца сёння, у маім уласным жыцці.

У нашыя дні мы ва ўгоду яго вялікасці камп'ютэру спрабуем "тэхналагізаваць" школу, ствараем тэсты, блокі і г.д. Што ж, справа гэтая патрэбная: пры выкарыстанні сучасных прыёмаў вучань атрымае ад школы яшчэ больш інфармацыі. Але скажам адкрыта: да выхавання гуманістычнай высакароднасці асобы ўсе гэтыя тэхналогіі не прыдатныя. Драма сённяшняй школьнай сітуацыі, на наш погляд, заключаецца ў тым, што лепшыя метадычныя розумы накіраваны не на ратаванне душ, не на маральнае выжыванне чалавецтва, не на выхаванне сарамлівасці, сціпласці, міласэрнасці, адным словам — інтэлігентнасці, а толькі на прыстасаванне сучаснай асобы да рынкава-тэхнічнай цывілізацыі. Кожны, хто знаёмы з гісторыяй педагогікі, разумее, што падобнае ўжо сустракалася ў жыцці школы, але збавіцельскім накірункам для развіцця асобы не аказвалася.

Узвышанасць жыцця асобы (жыцця, а не размоў пра жыццё) — першасная, а можа, адзіная мэта вывучэння літаратуры ў школе. Паважны шлях да гэтай мэты — дыялог вучня (і настаўніка) з мастацкім вобразам. У гэтага дыялога ёсць свая суровая, але выратавальная, праўда. Без гэтай праўды (асабістай для кожнага і ў той жа час каштоўнай для ўсіх) чалавецтву не абысціся.

**Юры ПАТАЛКОЎ,**
**дацэнт кафедры тэорыі і гісторыі рускай літаратуры Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна.**

Лета–2001

# "Разумнікі і разумніцы" на Алтушы,

## або Як адпачываюць прызёры алімпіяд

**Ціхі цёплы ліпеньскі вечар. Ледзь чутна плёскаюцца дзікія качкі на азёрнай гладзі, рыхтуючыся да сну, удалечыні горда праплываюць два прыгажуны-лебедзі з шасцю шэрымі пухавічкамі-дзеткамі. Стомленае сонца, схіляючыся на захад, высвеціла залацістую дарожку на водным люстэрку, на якую заглядваецца чарот, дзівячыся і радуючыся гэтаму незямному хараству.**

НА НЕВЫСОКІМ беразе падлеткі ціхенька назіраюць за гэтай гармоніяй прыроды, якую не хочацца парушаць, да якой хочацца дакрануцца, якую хочацца запомніць надоўга.

Гэтая цудоўная мясціна — Алтушскае возера, дзе шмат ракаў і рыбы, дзе чыстая крынічная вада, дзе паветра напоена водарам азёрных водарасцяў і пахамі прыбярэжных кветак, дзе лісце падбелу ў дыяметры — больш за паўметра.

Жывуць у гэтай прыгажосці і атрымліваюць асалоду пераможцы і ўдзельнікі рэспубліканскіх, абласных і раённых алімпіяд па інфарматыцы і матэматыцы. Сярод іх такія, як Раман Харс і Дзмітрый Шаўчэнка — удзельнікі рэспубліканскай алімпіяды па інфарматыцы, Павел Парчэўскі, Вадзім Грэчанюк, Аляксандр Шастакоў — удзельнікі абласной алімпіяды па інфарматыцы, Кацярына Нікалаюк — прызёр рэспубліканскай алімпіяды па матэматыцы і інш.

А прывяло іх сюды жаданне павысіць узровень сваіх ведаў, абмяняцца інфармацыяй, памерацца сіламі на ўнутрылагерных алімпіядах, узровень якіх не ніжэйшы за рэспубліканскі, пазнаёміцца з разумнымі людзьмі (выкладчыкі — кандыдаты навук з БрДУ, выкладчыкі гімназій), сустрэцца яшчэ раз са знаёмымі і сябрамі па алімпіядах, пазагараць, адпачыць, набрацца сіл перад новым навучальным годам.

Ідэя летніка належыць настаўніку інфарматыкі сярэдняй школы № 3 Маларыты Ігару Віктаравічу Гардынцу, на рахунку якога нямала добрых спраў. Ён выношваў сваю задуму доўга, але рэалізаваў яе толькі ў мінулым годзе. Другі год летнік дзейнічае на базе Алтушскай турбазы ў экалагічна чыстым Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці на беразе возера.

Летнік стварылі ўсёй грамадой. Упраўленне адукацыі Брэсцкага аблвыканкама яшчэ ў маі абмеркавала ўсе пытанні з Маларыцкім раённым аддзелам адукацыі. Яно ж, у асобе Мікалая Мікалаевіча Евіка, займалася размеркаваннем пуцёвак у гэты летнік, аплатай за лекцыі выкладчыкам спецкурсаў.

Андрэй Андрэевіч Казінскі, начальнік аддзела фізіка-матэматычных дысцыплін Брэсцкага абласнога інстытута павышэння кваліфікацыі, дапамог падабраць лектарска-выкладчыцкі састаў.

Дырэктар сярэдняй школы № 3 Маларыты Іван Барысавіч Шышук выдзеліў тэхнічнае забеспячэнне, спартыўны інвентар, штат кухараў.

Асаблівую падзяку трэба выказаць дырэктару Алтушскай сярэдняй школы Мікалаю Сяргеевічу Анішчуку. Ён прадаставіў школьны харчаблок, спартзалу, вучэбныя кабінеты, інтэрнат для пражывання педагогам.

У летніку 68 школьнікаў і 12 чалавек персаналу, з іх — шэсць выхавальнікаў, якія ў большасці з'яўляюцца і лектарамі. Хочацца сказаць пра кожнага асабіста, таму што выхоўваць высокаінтэлектуальных асоб можа толькі Настаўнік-асоба. Гэта — сябры і паплечнікі І.В.Гардынца, з якімі ён з'еў не адзін пуд солі на алімпіядах, з якімі абмяркоўваў ідэю летніка і якія, не лічачыся ні з чым, дапамагаюць яму ва ўсім: псіхолаг сярэдняй школы № 2 Маларыты Надзея Якаўлеўна Верыч, настаўнік інфарматыкі гімназіі № 1 Драгічына Ірына Лявонцьеўна Шаляговіч, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Плешчыцкай сярэдняй школы Пінскага раёна Валянціна Уладзіміраўна Жалнерык, настаўнік інфарматыкі Хацíслаўскай сярэдняй школы Маларыцкага раёна Васіль Васільевіч Стасюк, кіраўнік гуртка цэнтра пазашкольнай работы Маларыты Іна Сцяпанаўна Булатава.

Паказальны пералік лекцый і семінараў, якія праводзяцца ў летніку. Гэта: "Пачатак праграміравання. Мова Паскаль", "Камп'ютэрная рэалізацыя праектаў па хіміі", "Visual Basic", "Сеткавыя тэхналогіі", "Метады алгарытмізацыі. Рашэнне алімпіядных задач", "Модулі. Рашэнне ўраўненняў, няроўнасцей, якія ўтрымліваюць модулі з адной і некалькімі пераменнымі", "Ураўненні і няроўнасці з параметрамі. Геаметрычнае месца пунктаў на плоскасці", "Кабінет псіхалагічнай разгрузкі".

Вучня не загоніш у формулу "веды — уменні — навыкі". І няма інструмента, якім можна было б змераць усё высакародства душы вучня, непаўторныя моманты яго творчасці ў вучэбным працэсе. Нічым не вымяраюцца ў працы вучня і азарэнні, якія не ўзнікаюць з нічога і ніадкуль, а рыхтуюцца ўсім папярэднім вопытам школьніка, яго бясконцымі дыялогамі з самім сабою.

У рабоце з вучнем кіраўнікі семінараў не могуць не збіраць так званае "дасье" на яго, якое бывае двух відаў. Адны кіраўнікі здольны ствараць на вучня дасье "рацыянальна-безуважнае", у аснове якога ляжыць толькі "аб'ектыўна-халодная канстатацыя статусна-прававога развіцця вучня". Другія, і ў нашым летніку таксама, мудрэйшыя, пішуць "дасье поспехаў", у якім адлюстроўваецца ўсё радаснае, цікавае і вартае з таго, што адбываецца ў жыцці вучня.

Дыягностыка кампетэнтнасці школьніка дае кіраўніку семінара не толькі багатую інфармацыю для разваг і далейшага аналізу, але і садзейнічае вызначэнню напрамкаў і перспектыў росту, умацаванню адэкватнай прафесійнай самаацэнкі, пазітыўнай Я-канцэпцыі і псіхалагічнай абароненасці вучня. Асноўны этап заключаецца ў карэкцыі, кансультацыі, адаптацыі і падтрымцы вучня. Усё гэта патрабуе высокага прафесіяналізму, прытрымлівання этычных норм і правілаў, выразнай маральнай пазіцыі з боку кіраўнікоў семінара.

Ва ўмовах гуманізацыі і дэмакратызацыі адукацыі настаўнік і вучань узаемазамяняюцца, узаемадзейнічаюць і разам удзельнічаюць у наладжванні жыцця ў летніку.

Пры гэтым іх супрацоўніцтва больш асэнсаваным і эфектыўным робіць педагагічная дыягностыка, насычаная методыкамі, узятымі з псіхадыягностыкі, пры ўмове шырокага выкарыстання сацыяметрычных і сацыялагічных методык і матэматычнай апрацоўкі атрыманых матэрыялаў.

Педагагічная дыягностыка сёлета ў нашым летніку становіцца ўсё больш поліфункцыянальнай, уключаючы ў сябе такія функцыі, як аналітычная, уласна дыягнастычная, ацэначная, карэкцыйная, арыентацыйная і інфармацыйная.

Вучань, які імкнецца да пазнання, рэалізацыі і павышэння свайго вучэбнага патэнцыялу, ужо не зможа "адбываць" урок. Ён будзе "пражываць" кожны ўрок, ствараючы неабходны псіхалагічны камфорт і сітуацыю поспеху для іншых і для самога сябе, атрымліваючы пры гэтым велізарнае задавальненне. Навучанне ў гэтым выпадку будзе мець ужо не характар прыёму інфармацыі, а характар стымуляцыі і актывізацыі пазнавальнай дзейнасці школьніка.

Праца настаўніка ў нашым летніку (як складаная псіхічная рэальнасць) уяўляецца намі ў выглядзе шматмернай прасторы, якая, у сваю чаргу, складаецца з трох узаемазвязаных прастораў: асобы настаўніка, педагагічнай дзейнасці, педагагічных узаемін.

Гэтыя прасторы аб'яднаны адзінай глабальнай задачай развіцця асобы настаўніка. Разам з тым, яны не накладваюцца адна на адну, не паўтараюцца, а ўступаюць у складанае дыялектычнае адзінства, пры гэтым кожная з іх у працэсе працы настаўніка выступае або перадумовай, або сродкам ці вынікам развіцця.

Прадуктыўнасць работы па дыягнаставанні паспяховасці вучня перш за ўсё залежыць ад узаемаадносін з ім кіраўнікоў семінара. Адкрытыя, даверлівыя стасункі складваюцца толькі ў тым выпадку, калі ў іх аснову закладзены і дзейнічаюць прынцыпы: разумець, вывучаць, дапамагаць! І пры гэтым свята шануецца запавет Гіпакрата: "Не нашкодзь!"

Але які ж летнік без адпачынку? І тут задача дарослых — зрабіць так, каб адпачынак не ператварыўся ў марнаванне вольнага часу, а быў напоўнены цікавым, захапляючым і карысным зместам. Менавіта на гэта і была скіравана ўся выхаваўчая работа ў нашым летніку. Выхавальнікі разумелі, што да іх прыехалі не проста дзеці, а кожнае з іх — асоба, таму мэтай выхаваўчай работы было развіццё гэтай асобы з улікам яе індывідуальных асаблівасцей.

Мерапрыемствы падбіраліся з такім намерам, каб раскрыць інтарэсы, патрэбы, магчымасці і схільнасці кожнага дзіцяці. Выхавальнікі ставілі перад сабой задачы: згуртаваць, аб'яднаць вучняў у калектыўнай дзейнасці з улікам іх асаблівасцей; садзейнічаць іх рознабаковаму развіццю; знайсці педагагічна дакладны тон узаемін, стварыць абстаноўку для сумеснай творчасці выхавальнікаў і выхаванцаў, для добрых, цёплых, сяброўскіх узаемаадносін.

І з поўнай упэўненасцю можна сказаць, што ўсе гэтыя задачы былі паспяхова вырашаны дзякуючы творчай працы выхавальнікаў, іх захопленасці, энтузіязму.

Колькі цікавых і незвычайных ідэй знаходзіла ўвасабленне ў розных конкурсах і мерапрыемствах, што праходзілі ў нашым летніку! Пра гэта могуць сказаць іх назвы: конкурс акторскага майстэрства, конкурс "Лясное атэлье мод", "Рыцарскі турнір", свята "Івана Купалы", гульня "Адгадай мелодыю", свята Нептуна, "Запалкавы турнір", "Інтэлектуальны марафон", гульня "Знік выхавальнік" і многае іншае.

Якое б мерапрыемства ні праходзіла ў нашым летніку, яно было цікавым і захапляльным, таму што ўсе яго ўдзельнікі і ўсе, хто яго рыхтаваў, укладвалі часцінку сваёй душы. Шмат ідэй падавалі самі дзеці, і самі ж іх рэалізоўвалі.

Але не толькі дзеці ў нашым летніку былі асаблівымі: адметнымі і вельмі цікавымі людзьмі былі і самі выхавальнікі. Так, у Ірыны Лявонцьеўны Шаляговіч на любое пытанне дзяцей быў заўсёды гатовы адказ, вясёлы і знаходлівы. Ірына доўгі час сама гуляе ў КВЗ і трэніруе каманду гімназіі № 1 Драгічына.

Цяплом і дабрынёй саграваліі сваіх выхаванцаў Валянціна Уладзіміраўна Жалнерык, Аляксандр Андрэевіч Буслаўскі. Кожны выхавальнік унёс свой непаўторны ўклад у жыццё летніка "Разумнікі і разумніцы". Нездарма на пытанне "Што запомніцца Вам больш за ўсё?" яны адказвалі: "Сябры, знаёмства з цікавымі людзьмі, мерапрыемствы і конкурсы".

Ніякі летнік не можа дзейнічаць без добрай арганізацыі харчавання. І калі летась яшчэ былі прэтэнзіі, дык сёлета практычна ўсе юнакі і дзяўчаты засталіся задаволенымі. Дзякуючы шэф-кухару Алене Станіславаўне Чыкіта, кухару Валянціне Іванаўне Струнец, Надзеі Мікалаеўне Чыкіта дзеці былі заўсёды накормлены смачнай і разнастайнай ежай.

Непрыкметна праляцела дваццаць дзён жыцця ў летніку. Надвор'е было як па заказе. Разумнікі і разумніцы атрымалі новыя веды, звярнулі на сябе ўвагу выкладчыкаў Брэсцкага універсітэта. З гонарам павезлі дадому візітную картку свайго педагога, кнігу з яго дароўным подпісам. І — вялізную колькасць уражанняў ад шчаслівага жыцця ў гэтых райскіх мясцінах. А мы, педагогі, з сумам расставаліся з гэтымі разумнымі, абаяльнымі, шырока эрудзіраванымі, але такімі яшчэ наіўнымі, ласкавымі дзецьмі, якіх пусцілі да сябе ў душу і якіх будзем яшчэ доўга памятаць.

Да пабачэння, Алтуш-2001. Да сустрэчы ў будучым годзе з Алтушам-2002.

**Ала ПІВАВАРАВА,**
**настаўнік матэматыкі вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы № 3 Маларыты.**

Дзяржаўная інспекцыя паведамляе

# Ці ведаюць нашы студэнты правы чалавека?

***Рэспубліканская дзяржаўная інспекцыя сістэмы адукацыі праверыла, як выкладаецца спецкурс "Правы чалавека" ў 16 вышэйшых навучальных установах краіны, якія пры гэтым выкарыстоўваюцца формы, метады, падыходы.***

У большасці вышэйшых навучальных устаноў распрацаваны праграмы спецкурса "Правы чалавека", набываецца неабходная літаратура, у бібліятэках арганізаваны пастаянна дзеючыя выставы літаратуры па данай тэматыцы. На нарадах ВНУ, пасяджэннях кафедр заслухоўваюцца пытанні якасці вывучэння гэтага спецкурса.

У Баранавіцкім вышэйшым педагагічным каледжы працуе лекторый "Правы чалавека", дзе праходзяць сустрэчы з работнікамі праваахоўных органаў, дыскусіі, дыялогі, прэс-канферэнцыі. На працягу двух гадоў студэнты Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка займаюцца даследаваннем асобных відаў правоў чалавека ў праблемных групах. Значную навукова-метадычную работу па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы педагагічных кадраў для вывучэння правоў чалавека правялі Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы Беларускага дзяржаўнага універсітэта і абласныя інстытуты павышэння кваліфікацыі.

Выкладчыкі шэрага навучальных устаноў на практычных занятках выкарыстоўваюць тэхнічныя сродкі навучання (відэатэхніка, відэафільмы), праводзяць псіхалагічныя трэнінгі. Заслугоўвае ўвагі вопыт работы па адукацыі ў галіне правоў чалавека ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце А.С.Пушкіна (прафесар І.І.Катляр) і Баранавіцкім вышэйшым педагагічным каледжы (Е.Н.Гардзей).

Пэўная ўвага ў вышэйшых навучальных установах надаецца рабоце па азнаямленні грамадскасці з заканадаўчымі актамі па правах чалавека. На старонках інстытуцкіх, абласных і раённых газет публікуюцца артыкулы па праблемных пытаннях правоў чалавека.

Аналіз выкладання спецкурса ў ВНУ рэспублікі сведчыць пра пазітыўнае стаўленне да яго выкладчыкаў і студэнтаў. Большасць апытаных студэнтаў (93 працэнты) адзначылі, што працэс навучання правам чалавека садзейнічае стварэнню больш дэмакратычнай атмасферы ў навучальнай установе, знаходзіць сваё выражэнне ў актывізацыі студэнцкага самакіравання, пашырэнні галоснасці і інфармаванасці студэнтаў.

З мэтай вызначэння якасці ведаў у галіне правоў чалавека былі праведзены кантрольныя работы па спецкурсе, у якіх прынялі ўдзел 779 студэнтаў з дзевяці вышэйшых навучальных устаноў краіны. Студэнты Баранавіцкага вышэйнага педагагічнага каледжа, Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі паказалі добрая веданне права, правоў і абавязкаў чалавека, асноўных відаў правоў і свабод.

Добра былі раскрыты такія тэмы, як "Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь аб правах, свабодах і абавязках грамадзян", "Роля асобы і грамадскасці ў рэалізацыі правоў чалавека".

У той жа час праверка паказала, што студэнты маюць недастаткова глыбокія веды ў галіне функцыянавання міжнароднага механізма абароны правоў чалавека, зместу асобных дакументаў ААН (Беларускі дзяржаўны універсітэт транспарту, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, Магілёўскі дзяржаўны тэхналагічны інстытут).

Кіраўніцтва вышэйшых навучальных устаноў не ў поўнай меры ажыццяўляе кантроль за выкананнем інструктыўна-метадычных пісьмаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, па дадзеным пытанні.

Выкладанне названага спецкурса ў некаторых ВНУ праводзяць выкладчыкі, якія не прайшлі адпаведную падрыхтоўку. Не арганізаваны пастаянна дзеючыя выставы літаратуры ў бібліятэках Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага і Беларускага дзяржаўнага аграрнага тэхнічнага універсітэтаў.

У выкладанні спецкурса "Правы чалавека" ў большасці навучальных устаноў выкарыстоўваюцца толькі традыцыйныя формы навучання (лекцыі, семінары, практычныя заняткі). Выключэннем з'яўляюцца Брэсцкі дзяржаўны універсітэт, Баранавіцкі вышэйшы педагагічны каледж.

У большасці ВНУ не праводзіцца абагульненне, пашырэнне і вывучэнне вопыту работы, методыкі выкладання спецкурса, няма наглядных дапаможнікаў, сучасных дакументальных фільмаў, відэафільмаў па правах чалавека, мала ўвагі надаецца пытанню далучэння суіскальнікаў, аспірантаў і студэнтаў да ажыццяўлення навуковых даследаванняў па данай праблеме, арганізацыі і правядзенню конкурсаў студэнцкіх работ.

У рэспубліцы ўсё яшчэ праблемным застаецца пытанне забеспячэння дадзенага спецкурса вучэбнай літаратурай (тая, што маецца, выдадзена малымі тыражамі), відэаматэрыяламі.

Перыядычныя выданні недастаткова публікуюць матэрыялы, якія адлюстроўваюць стан адукацыі ў галіне правоў чалавека. Пры універсітэтах неабходна стварыць вучэбна-метадычныя семінары для выкладчыкаў спецкурсаў па правах чалавека. Адчуваецца і адсутнасць дастатковай вучэбна-метадычнай базы.

**Таісія АСТРЭЙКА,**
**вядучы інспектар аддзела інспектавання вышэйшых навучальных устаноў Рэспубліканскай дзяржаўнай інспекцыі сістэмы адукацыі.**

# Час дзіцячых прытулкаў...

***Сёння ў Беларусі ўсё большую вастрыню набывае праблема сацыяльнага сіроцтва. Адным са спосабаў яе вырашэння з'яўляецца адкрыццё дзіцячых прытулкаў.***

Такі прытулак, на 20 дзяцей, быў адкрыты тры гады таму назад пры Кулікоўскай базавай школе Чэрвеньскага раёна. Узначальвае яго вопытны педагагічны работнік з 38-гадовым стажам Алена Васільеўна Мазаль, яе намеснік — Людміла Уладзіміраўна Цэдрык.

За час працы праз прытулак прайшло каля 100 дзяцей з асацыяльных сем'яў. Узрост дзяцей — ад 6 да 14 гадоў. Паводле статусу гэтай установы, дзеці могуць знаходзіцца ў ёй не больш за 6 месяцаў. Тут — усюды чысціня і парадак, прыязныя ўсмешкі не сыходзяць з твараў выхавальнікаў і настаўнікаў. Дарэчы, дзеці працягваюць вучобу тут жа, у Кулікоўскай школе, дзе працуе 11 пастаянных настаўнікаў і 3 настаўнікі-сумяшчальнікі.

Асноўная праблема школы і прытулку — недахоп педагагічных кадраў і тэхнічнага персаналу. Прычына заключаецца ў тым, што вёска Кулікі знаходзіцца ў 23 кіламетрах ад Мінска, і многія працаўладкоўваюцца ў горад, на прадпрыемствы, дзе заробак значна вышэйшы. А на месцы застаюцца толькі самаадданыя людзі, патрыёты сваёй справы. І гэта было відаць ва ўсім: у адносінах да дзяцей, у афармленні пакояў для гульняў, школьных кабінетаў, школьнага памяшкання і прылеглай тэрыторыі — шыкоўнага прышкольнага ўчастка, з якога часткова "кормяцца" выхаванцы.

Цудоўныя людзі, якія аддаюць свае сэрцы дзецям, — выхавальнікі Наталля Мікалаеўна і Людміла Леанідаўна Адзінцовы. Дзякуючы іх працы і працы іхніх калег прытулак жыве адной дружнай сям'ёй. Дзяўчынкі і хлопчыкі ўдзельнічаюць у мастацкай самадзейнасці, розных гуртках, выпраўляюцца ў паходы і экскурсіі.

Словы вялікай падзякі выказваліся кіраўніцтвам школы і прытулку спонсарам — фонду "Чарнобыльскі бусел" (старшыня Н.Н.Парукова), дабрачыннай арганізацыі "Беларускія ахвяры Чарнобыля" (дырэктар Пітэр Прат), Беларусаму Фонду Міру (старшыня Т.А.Ермаловіч). Дзякуючы ім дзеці аздараўляліся ў Англіі. Аказвалася дапамога з абуткам, адзеннем, рэчамі асабістай гігіены. Пітэр Прат падараваў тэлевізар, магнітафон і відэамагнітафон. "Хай дае Вам Бог асабістага шчасця і доўгіх гадоў жыцця", — у сваю чаргу пажадала яму А.В.Мазаль.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**Уладзімір ВЕЯЛГА,**
**супрацоўнікі Мінскага абласнога ПК**

Яшчэ, здаецца, зусім нядаўна нішто не прадракала такой спякоты. Нават думалася ўжо: вось пройдзе лета — і не заўважыш. Але ж, вось табе... Ад распаленых камянёў і асфальту ў горадзе стала немагчыма дыхаць. Наскрозь расчынены вокны, але гарачае, ліпкае паветра ўсё роўна моцна трымае цябе ў сваіх абдымках і здаецца нерухомым. Нават дождж і той прыносіць зусім нядоўгую палёгку. Адным словам — спякота!

Эх, як добра апынуцца ў такі час дзе-небудзь на беразе блакітнага возера альбо ціхай рачулкі. Акунуцца з галавою ў ваду і на некалькі хвілін забыцца на ўсё, адчуваючы толькі асалоду нахлынуўшай разам прахалоды.

**Юрый БОНДАРАЎ. Фота аўтара.**

